РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 300 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №31 (140), 3 ЖНІЎНЯ 1994 ГОДА.

СЁННЯ:



**ХТО Ж НЕ ЛАСЫ НА "ПАЛЯПШЭНКУ"**

Пакуль найбольшае расчараванне праклёўваецца ў тых, хто спадзяваўся на даўняе бальшавіцкае: "Рабуй нарабаванае!"

■ Стар.2

**ПАКУЛЬ НЕ НА "ДЗІКІМ" ЗАХАДЗЕ...**

"...Я аптыміст, але жыццё і практыка дэманструе іншае. Сваім дзецям я на тры пакаленні "закажу" — не будзьце ўрачамі!"

■ Стар.3

**ХАДКЕВІЧЫ**

Дзякуючы папярэдняй і шчодрай падтрымцы Хадкевічаў ужо ў першыя дзесяцігоддзі XVI ст. існавалі буйныя кнігазборы, развіваліся мастацкія рамёствы, іканапіс, кнігапісанне, царкоўная музыка.

■ Стар.4

**ПРЭМ'ЕРА ОПЕРЫ ДЖ.ВЕРДЗІ "РЫГАЛЕТА"**

За неверагодна кароткі тэрмін (крыху больш за месяц) трупа ДАВТ Беларусі здолела выканаць найскладанейшыя рэжысёрскія задачы.

■ Стар.5

**"ЧУЖЫХ ДЗЯЦЕЙ НЕ БЫВАЕ"**

Тры тыдні не дажыла маці да светлага дня Перамогі.

■ Стар.6

**TV-праграма:**

БТ,
"Астанкіна",
канал "Расія",
Санкт-Пецярбург,
8-ы канал.

■ Стар.7

**ШТО ДАЛЕЙ, ЕЎРОПА?**

Еўрапейскія кінатэатры ўжо зараз з вялікай неахвотай паказваюць фільмы сваіх рэжысёраў. Даўно мінулі тыя часы, калі творы Феліні, Вісконці, Бергмана гучна выходзілі на ўсе еўрапейскія экраны.

■ Стар.8

# ВЫРАСТАЙ У МАГУТНАЕ ДРЭВА

Гэта — не процістаянне. Гэта, з аднаго боку, пакуль што вынікі не пройдзенага старым мысленнем "лікбеза": незалежнасць краіны не змяшчаецца ў адну Перамогу над фашызмам у 1945-м, якой бы вялікаю тая ні была. І ўсведамленне, з другога боку, што незалежнасць — гэта найперш геніі народа, якія звалі "з путаў на свабоду... з цемры да свята", гэта ўвесь пакутніцкі шлях беларусаў праз стагоддзі. Вось чаму 27 ліпеня святкавалі і ля абеліска Перамогі, і ў скверы, дзе стаіць задуменны Янка Купала, шлях да якога святочныя калоны пачалі з плошчы Незалежнасці.

Галоўнае — гэта было Свята! Мы ўсе сведкі таго, як яно калісьці нараджалася — у канвульсіях спалоханага галавакружнымі падзеямі ў Маскве парламента, у мітынгах вакол Дома ўрада і ў намаганнях патрыётаў Беларусі, што змаглі ў той час падняць старадаўнія Сцяг і Герб — так высока, каб іх убачылі народы свету і прынялі як сімволіку маладой незалежнай дзяржавы.

Мы сведкі і ўдзельнікі падзей, і многія традыцыі мы ствараем сёння самі.

Што з таго, што на плошчы Незалежнасці стаіць помнік праваднеру ідэалогіі, якая зжыла сябе і, спадзяемся, ніколі не вернецца ў цывілізаваны свет? Прыйдзе і яго час, і ён знікне, як знік зусім нядаўна з Дома ўрада ягоны сімвал.

А Незалежнасць — жыве! Віруе свята, усміхаюцца людзі, што беражліва ўтрымліваюць яе і зараз, таму што гэты парастак яшчэ кволы і крохкі. Яму ж усяго тры гады; затое расце ён з тысячагадовага ствала, надломленага нечуванымі навальніцамі Гісторыі.

Расці, наш парастак! Мацуйся ў магутнае дрэва, якое ўжо не ссячы і не знішчыць нікому...

Фотакалаж Аляксандра СТАДУБА і Наталлі ОВАД

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

## ВЫСТАВА Ў "ЖЫЛЬБЕЛЕ"

Творчасць сямі маладых мастакоў відавочна дэманструе эвалюцыю сучаснай беларускай графікі ў кантэксце развіцця ўсяго нацыянальнага мастацтва канца XX стагоддзя.

Пачынаючы з 50-х гадоў, кожнае дзесяцігоддзе выяўляла новы сегмент непарыўнага развіцця мастацтва, пэўныя стылістычныя своеасаблівасці і, адпаведна, сваіх найбольш адметных аўтараў. Наватарства "шасцідзесятнікаў" найбольш яскрава знайшло адлюстраванне ў творчасці Арлена Кашкурэвіча. У 70-я гады яркі штрых унеслі браты М. і У. Басалыгі. Дамінантнымі для 80-х сталіся незалежныя творчыя канцэпцыі У.Савіча, М.Селешчука, В.Славука.

Мастацтва 90-х гадоў, прадстаўленае на выставе ў "Жыльбеле" творамі В.Баранава, Я.Ліс, К.Селіханава, М.Радзівілкі, П.Іонава, А.Каплуновай, А.Нядзелькі, мастакоў, якіх з'яднала майстэрня Д.Малаткова, таксама мае свае адметныя рысы. Ужо сёння аб творчасці гэтай групы можна гаварыць як аб незалежным мастацкім напрамку, для якога характэрны шырокі спектр тэхнічных сродкаў рэалізацыі і метадаў творчага самавызначэння. Самым характэрным, бадай, з'яўляецца тое, што ўзоры канцэптуальнага мастацтва сёння атрымалі статус прывілеяванасці і элітарнасці.

Упершыню ў беларускай графіцы другой паловы XX ст. намеціўся істотны адыход ад фігуратыўнага мастацтва. На змену яму надышоў вулканічны прарыў спантаннага, экспрэсіўнага, фавісцкага светапогляду, які становіцца для маладых тыповай формай самараскрыцця. Творчасць групы рознабаковая. Калі канцэпцыі Я.Ліс і В.Баранава грунтуюцца на павазе да традыцый, вяртанні да духоўных каштоўнасцяў, то пазіцыя астатніх канцэнтруецца на эмпірычным засваенні соцыума, на ўвазе да альтэрнатыўнага стылю жыцця. Творчасць гэтых мастакоў пакуль што не свабодная і ад кампіляцый, адчуваецца ўплыў нямецкай графікі. Аднак усіх іх аб'ядноўвае любоў да паэтычных пластычных структур, свежасць і непасрэднасць успрымання, пошук новых сродкаў вызначэння духоўнага пачатку.

**Алесь МАРАНОВІЧ,**
**мастацкі кіраўнік галерэі "Жыльбел"**

## ХТО Ж НЕ ЛАСЫ НА "ПАЛЯПШЭНКУ"?

Як вядома, першыя крокі першага Прэзідэнта ўспрымаюцца грамадствам з зацікаўленасцю, якую можна параўнаць хіба толькі з інтарэсам да палітыкі чатыры гады назад.

Інтэлігенцыя, якая здранцвела чакала ад народнага абранніка звыклых зняважлівых цытаванняў з беларускай і знарочыстага таптання па самым дарагім, радасна страпянулася, нібыта доджджык пырснуў на яе завялыя надзеі: Прэзідэнт прачытаў сваё выступленне на Свяце Незалежнасці па-беларуску, прычым беларуская яго мова, у адрозненне ад расейскай, была фанетычна чыстай і не рэзала слых, як звычайна... І гаварыў ён пра гістарычныя традыцыі, і пачынаў не са статута КПСС, а з Еўфрасінні Полацкай...

"Ну і радасці ў іх! — з дрэнна прыхаваным здзіўленнем скажа інтэлектуал з любой нармальнай краіны. — Прэзідэнт выступае на дзяржаўнай мове — што ж тут дзіўнага?"

"Чокнутыя!" —гаворыць вадаправодчык Вася, які, будучы сынам прыезджага сяржанта, быў вызвалены ад беларускай. — Я заўсёды казаў — ад вашай мовы каўбасы не пабольшае. І ўвогуле — нашто гэтая інтэлігенцыя?!"

Прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Карагін, якога бізнесмены ў сваіх газетах дружна закляймілі як прыдворнага кебічаўскага падлявалу, які, накшталт Дзяржаўнага ансамбля танца, што некалі сімвалізаваў беларускасць, паказваў апошнія гады як бы рыначнасць урада, — дык вось, гэты прэзідэнт ужо дае парады першаму Прэзідэнту, як нам усё-ткі дайсці да рынку, і, як Славянскі Сабор, гатовы з ім супрацоўнічаць (а можа, ізноў падлявацць і сімвалізаваць).



Непрыдворныя бізнесмены таксама радуюцца: прысутнасць прадстаўніка Міжнароднага валютнага фонду дае надзею на рух наперад, і не ў напрамку не бачанага ў свеце капіталістычнага сацыялізму, а шляхам знойдзеных і выпрабаваных распрацовак. Праўда, яны таксама гадаюць (можа, і не па кававай гушчы, а пралічваючы на сучасных камп'ютэрах) пра наш будучы эканамічны курс. Пакуль што нікому нічога канкрэтна не вядома, і ўсе могуць на нешта спадзявацца. Новае — гэта ўсё ж новае. Але ёсць і першыя прыкметы незадаволенасці. Нездарма фальклор, які выдаваў яшчэ ўчора:

*У дзяржаўную кішэньку*
*Ашалела лезлі,*
*Аж пакуль ім Лукашэнку*
*Дуляй не паднеслі!*
-- сёння змрочны і ўжо песімістычны:
*Ты дарма на паляпшэнку,*
*Мой мілёнак, ласы —*
*Уверх паўзуць пры Лукашэнку*
*Цэны на каўбасы!*

Ці дапамогуць тут самыя аўтарытэтныя тлумачэнні, што цудаў не бывае і будзь прэзідэнт разам з яго камандай фінансавым геніем стагоддзя, за пару тыдняў зрабіць нешта істотнае немагчыма? Тым больш калі невядома, ці можна спадзявацца проста на здаровы сэнс і рэфарматарства? Але славяне ў цуды вераць. Яны нездарма ж склалі казку пра Амельку, які ляжыць на печы, у той час як яму дапамагае шчупак, і, наколькі вядома, толькі на іх землях знаходзіцца адзіны ў свеце храм, прысвечаны юроду.

Выжываць столькі гадоў і быць задаволенымі, калі ў магазінах толькі і ёсць, што хлеб, каўбаса і гарэлка, мог на працягу 70-ці гадоў таксама, мабыць, толькі славянін, натхнёны ідэяй пабудаваць (з дапамогай таго ж шчупака з казкі) лепшае ў свеце грамадства. Не спакушаны ў эканоміцы, а выключна ў гісторыі і міфалогіі, інтэлігент, напэўна, не стаў бы раіць падвышаць цэны менавіта на гарэлку і каўбасу — гэтыя народныя сімвалы дабрабыту. Але ж, з другога боку, дываны і крышталь, мэбля і пушніна страцілі для пераважнай большасці жабрацкага насельніцтва былую прыцягальнасць. На што, на якія прадметы тады падвышаць іх, гэтыя праклятыя цэны, калі грошы патрэбныя, а эканоміка ў калапсе?

Пакуль найбольшае расчараванне праклёўваецца ў тых, хто спадзяваўся на даўняе бальшавіцкае: "Рабуй нарабаванае!".

Адзін з іх — мой нядаўні знаёмы, які ўваходзіць у склад жабрацкай каманды Камароўкі. Жывучы каля яе, бачыш іх усіх — і ў гадзіны найбольш інтэнсіўнага падаяння, і ў "мёртвы сезон", і ў час разборак, і ў час адпачынку. З паўгода таму назад, калі я корпаўся ля яго ў сваім мізэрным (у сэнсе грошай) кашальку, ён, агледзеўшыся і ўбачыўшы, што мы адны, раптам загаварыў грэбліва: "Што ты... тваю і тваю... таго "зайца" ловіш? Я сам табе магу падаць — і не "зайца". Прыпомніўшы цуд Валаамскай асліцы, я ўтрымаўся на нагах, а ён, задаволены эфектам, працягваў:

— Твае дзеці часта "Снікерсы" ядуць? Бачу, што справы твае (зноў сакавіты мат). Ну, дык бяры, на, вось! Мне маладыя буржуі падкідаюць, перад дзеўкамі красуюцца. Ад салодкага мне зубы баляць, і сабака мой адварочвацца пачаў ад гэтай дрэні...

Ён адкрыў торбу, прыхаваную пад бруднымі лахманамі і... чытач, я машынальна ўзяў пакамечаны "Снікерс" і пайшоў з ім, абмінуўшы ў разгубленасці ўласны дом... Праўда, з той пары мы час ад часу пачалі абменьвацца думкамі, і мой дабрадзей усё вучыў мяне, дурнога, за каго трэба галасаваць. У дзень выбараў ён крычаў мне ўслед: "Што, супраць народа ідзеш, за свайго БНФ-аўца галасуеш?" Назаўтра пасля перамогі яго ўлюбёнца ён красамоўна паказаў мне кукіш, таму што дыскутаваць не было як — у торбу якраз самі сыпаліся "зайцы".

Учора ж, позна вяртаючыся з працы, я ўбачыў свайго знаёмага моцна сп'янелым.

— З гора п'ю! — сказаў ён, ікаючы. — Я ж чытаў недзе, што самы багаты ў нас — Мясніковіч. А тут, на табе — зноў багацей наверсе. І катэджы пры іх. Дык за што галасавалі?

Я — не галасаваў, і таму расчароўвацца няма ў чым. Пакуль, пачуўшы першыя прамовы і ўбачыўшы першыя крокі, адчуваю, як, у адпаведнасці з адвечнай славянскай ментальнасцю, насуперак прагнозам, пачынае ўва мне ціха варушыцца надзея на тое, што цуд (нацыянальная палітыка, рынвчная эканоміка і інш.) усё ж пакладзе светлы покрыў на маю спакутаваную зямлю.

Бо хто ж не ласы на "паляпшэнку"?!

Бо я з тых, чые думкі ў калідорах Дома кнігі ў адной з гаворак неяк выказаў пісьменнік Васіль Сёмуха: "Канешне, у кашальку вецер гуляе, але гатовы цярпець усё — каб толькі ішло Адраджэнне".

**В.М.**

## ПАД КРЫЛАМІ ВЕРШАЎ БАГДАНОВІЧА

27 ліпеня ў фальварку Ракуцёўшчына, што ў Маладзечанскім раёне, адкрыла сваю экспазіцыю філія Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. На думку Сяргея Маслоўскага, галоўнага спецыяліста па музеях Міністэрства культуры і друку, цудоўна, што гэтая падзея супала з Днём незалежнасці Беларусі: гэта яшчэ раз падкрэслівае надзвычай важную ролю паэзіі ў станаўленні нацыянальнай дзяржаўнасці. На імпрэзе чыталіся вершы, выступалі фальклорныя гурты і барды. Сярод ганаровых гасцей быў Лявон Луцкевіч і Марыя Шабуня — сын і пляменніца Антона Луцкевіча. Прысутнічалі таксама старшыня райвыканкама Аркадзь Луповіч ды іншыя афіцыйныя асобы. Прадаваліся Максімавы кнігі.

Экспазіцыя адкрылася ў аднаўленай аднапакаёвай хатцы, у якой Багдановіч жыў улетку 1911 года і дзе ён стварыў цыклы вершаў "Места", "Старая Беларусь" і дзве паэмы. Аўтар канцэпцыі выставы, мастак Генадзь Чысты (ён таксама ствараў інтэр'ер музея Багдановіча ў Яраслаўлі) мяркуе, што менавіта ў Ракуцёўшчыне натхнёная асоба класіка літаратуры можа быць адлюстравана найлепшым чынам. Але работы наперадзе яшчэ шмат: плануецца адбудаваць цалкам сядзібу Вацлава і Ядзвігі Лычкоўскіх, у якіх гасцяваў Багдановіч. Ужо аднаўлена Максімава крынічка, увосень побач з ёю разбіты сад, у наступным годзе завершыцца рэканструкцыя гумна і клеці, а вось хата былых гаспадароў фальварка будзе адкрыта для наведвання толькі праз некалькі гадоў: у міністэрства не так шмат сродкаў, каб зрабіць усё адразу, а прыватных фундатараў у філіі музея пакуль няма. А трэба было б зрабіць яшчэ, прынамсі, прыстойную дарогу ад станцыі Уша.

Экспазіцыя Багдановічавай хаткі прываблівае аўтэнтычнасцю рэчаў пачатку стагоддзя, сярод якіх так плённа раскрыўся талент паэта. Удала ўпісаліся ў інтэр'ер фотаздымкі і кнігі самога Максіма. Адчуваецца, што мэтай мастака было адлюстраваць рамантычнасць і лёгкасць подыху паэзіі Багдановіча. Дый сам дамок — матэрыяльнае ўвасабленне шматгадовай мары паэта прыехаць, урэшце, на родную Беларусь. Таму так натуральна выглядае, напрыклад, саламяная птушка, што раскінула крылы над сталом, за якім Бадановіч пісаў свае вершы. І ці выпадкова, што пад страхою хаткі ўжо жывуць сапраўдныя ластаўкі?

**Наш кар.**

## АЙЧЫННЫ ДЗЕНЬ "СЛАВЯНСКАГА КІРМАШУ"

24 ліпеня ў рэчышчы III Міжнароднага музычнага фестывалю "Славянскі кірмаш" адбыўся Дзень беларускай культуры, прымеркаваны да Свята горада Віцебска.

Дзень пачаўся з адкрыцця помніка песняру беларускай гісторыі Уладзіміру Караткевічу. Народу, разам з замежнымі гасцямі, сабралася шмат. Агульную ўвагу прыцягвала сваімі шаблямі і чупрынамі дэлегацыя запарожскіх казакаў. Паміж прамовамі афіцыйных асоб артысты тэатра імя Якуба Коласа чыталі караткевічавы вершы, спявалі фальклорныя ансамблі і рок-гурт "Грамада".

Дзесяць гадоў прайшло з дня смерці прадвесніка абуджэння нацыянальнай культуры, але ён не забыты. На думку паэта Петруся Макаля, праз адкрыццё помніка адбылося другое прышэсце Караткевіча: "Ён прызямліўся ў Віцебску, як ягоны Хрыстос — у Гародні". А старшыня праўлення СП Васіль Зуёнак выказаў упэўненасць, што "Караткевіч будзе стаяць тут як абярэжнік беларускасці ў гэтым краі".

Зрэшты, сам Караткевіч наўрад ці пагадзіўся б на ролю маяка для пэўнай партыі, хай сабе і найбольш патрыятычнай. Ён быў не палітыкам, а мастаком слова. І толькі таму мае права на любоў усіх беларусаў і павагу іншых славянскіх народаў. Як падкрэсліў намеснік міністра культуры і друку Генадзь Бураўкін, сапраўдны помнік паэту — ягоныя творы, калі іх яшчэ чытаюць і любяць наступныя пакаленні.

Сярод ганаровых гасцей на імпрэзе прысутнічаў старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб.

* * *

Дзень беларускай культуры быў багаты на цікавыя падзеі, тэатралізаваныя святы, выставы і канцэрты, якія праходзілі па ўсім горадзе амаль аднachасова. У небе над раёнам Журжава адбылося авіяцыйна-спартыўнае свята, таксама прысвечанае 50-годдзю 339-га палка транспартнай авіяцыі.

Сквер Маякоўскага запрашаў гасцей фестывалю ў "Горад майстроў": тут можна было пазнаёміцца з майстрамі народных рамёстваў і набыць упадабаныя творы, а таксама паслухаць конкурсы баяністаў і частушачнікаў.

У Мазурынскім парку адбывалася тэатралізаванае свята "Славянскі кірмаш яднае сяброў". Артысты ў касцюмах розных эпох разыгрывалі тут фрагменты 1020-гадовай гісторыі Віцебска.

Арт-цэнтр Марка Шагала наладзіў для замежных гасцей прэзентацыю выставы "І Міжнародны Шагалаўскі пленэр".

А ў Музеі прыватных калекцый адбыўся больш камерны вернісаж прыватных збораў мастацтва віцебскай газеты "Народнае слова", а па сутнасці — свята аднаго з найбольш папулярных выданняў рэгіёна.

На плошчы Свабоды ладзілася тэатралізаваная імпрэза "З днём нараджэння, родны Віцебск!", у якой бралі ўдзел вакальна-харэаграфічны ансамбль "Маладосць", народныя фальклорныя гурты "Медуніца", "Вытокі" ды іншыя.

У прэс-цэнтры фестывалю адбылося чарговае "рандэву з зоркай", гэтым разам — з Уладзімірам Мулявіным, які больш за гадзіну адказваў на дружалюбныя або крытычныя пытанні журналістаў адносна творчасці "Песняроў" і, дарэчы, атрымаў у падарунак нумар нашай газеты з ягоным партрэтам.

Цэнтр нацыянальных культур, што месціўся ў тэатры імя Якуба Коласа, запрашаў на канцэрт беларускай эстрады "Я — Артыст", дзе спявалі Алеся і Д.Смольскі, студыя "Сябры", А.Скараход, дыпламанты сёлетняга конкурсу маладых выканаўцаў "Славянскі кірмаш — 94" Аксана Пятрова і Сяргей Сількевіч ды іншыя.

Магчыма, дадаткам музычнага фестывалю неўзабаве станецца славянскі кінафестываль. Ужо сёлета кожная з пяці асноўных краін-удзельніц прадставіла, прынамсі, адну мастацкую стужку. У прыватнасці, 24 чэрвеня адбылася прэзентацыя беларускага фільма "Аз вაздам", які апавядае пра лёс сярэднявечнага філосафа Казіміра Лышчынскага, закатаванага інквізіцыяй.

Увесь вечар на плошчы Свабоды ладзіліся гульні і танцы для моладзі, а непадалёк адбываўся канцэрт фальклорных і эстрадных выканаўцаў з братніх славянскіх краін "Віцебск збірае сяброў".

І, нарэшце, апафеозам Дня беларускай культуры стаўся юбілейны канцэрт "Песнярам — 25!" у летнім амфітэатры, трансляцыю якога глядзелі, напэўна, усе.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

СІТУАЦЫЯ

# ПАКУЛЬ НЕ НА "ДЗІКІМ" ЗАХАДЗЕ

Адна з асноўных нашых ганаровых заваёў 1917 года —бясплатнае медыцынскае абслугоўванне. Зразумела, што гэта не адзінае, што адрознівала наша жыццё ад жыцця на "дзікім" Захадзе. Напрыклад, і дваццаць гадоў таму "хуткая дапамога" дзе-небудзь на Алясцы наўрад ці прыязджала на выклік праз легендарныя сорак хвілін. У нас жа тыя хвіліны — справа нармалёвая і пры розных гістарычных фармацыях. За апошнія восем гадоў (я маю на ўвазе 1986 — 1994 гг.) мы перажылі шмат калі не гістарычных, дык рэвалюцыйна-эканамічных падзей. Але ж асноўныя інстытуты жыцця (асабліва медыцына) нібы былі закансерваваныя ў баракамеры ад хваляў новых пераўтварэнняў, якія не тое, каб захлынулі і панеслі нашу медыцыну ў новае цывілізаванае рэчышча жыцця, а нават і не дакрануліся яе берага аніводным новым прагрэсіўным законам ці элементарнай зменай падыходу.

Зразумела, што зараз не будзе ісці размова пра кваліфікаванага "саўковага" ўрача. Доказаў іх вартасці хапае. Толькі за апошнія гады ў капіталістычныя краіны былі запрошаныя на працу шмат таленавітых суайчыннікаў-эскулапаў — Караблёў, Багданаў... Дый тэма гэтая зусім іншая...

Мне хочацца нагадаць вам расказ О'Генры, дзе герой-бомж на зіму намагаўся трапіць ці ў бальніцу, ці ў турму, бо няма як пражыць адзінокаму і беднаму чалавеку. Адчуваеце? Для яго няма розніцы паміж турмой і бальніцай — цёпла і не галодна і там, і там... Усё гэта адбывалася ў XIX стагоддзі, калі ў Амерыцы існавалі паўсюдна прытулкі для адзінокіх, клінікі былі абавязкова платныя і, зразумела, мелі градацыю, а амерыканская турма была роўнай для ўсіх: ад прэзідэнта да забойцы.

Да чаго я ўсё гэта? Дый пра наша няпростае жыццё, дзе смерць ужо можна лічыць, прабачце, падарункам ці ўзнагародай. Калі сёння бачыш старых, якія чакаюць, каб ты не даеў піражок ці не дапіў сок, хочацца памарыць, што хутка будзе зіма і яны зажывуць сытней і цяплей (як тыя амерыканскія старыя). А чарговым камісіям па распрацоўцы новых законаў можна параіць — чытайце зрэдку О'Генры і радзей вандруйце за дзяржаўны кошт па радзіме гэтага пісьменніка.

Не толькі гэтыя думкі прывялі вашага карэспандэнта спецыяльна ў бальніцу хуткай дапамогі ноччу з 26 на 27 ліпеня. Мяне цікавілі канкрэтныя пытанні:

— лекі,

— асноўныя захворванні,

— Пацыент — 94 — хто ён?

Як толькі я праляцела па калідоры рэанімацыі і сустрэлася з урачамі, адчула, нібы мяне ўсё жыццё чакала ў ардынатарскай брыгада дзяжурных урачоў-рэаніматараў. Размову нашую штохвілінна спынялі бягучыя неабходныя справы цяжкага аддзялення, таму інтэрв'ю не атрымалася. Гутарка была падобная да маналогу, які склалі: Яўген Пракасенка — урач-анестэзіёлаг, Алена Сакрэтава і Ігар Фамін — урачы-рэаніматары.

"Лекі? Вы быццам бы з Месяца зваліліся... У нас даўно працуе прынцып: той, хто тоне, мусіць ратаваць сябе сам. Каб не знаёмыя ці сваякі хворых, часам і працаваць не было б чым. Бывае і так: заўсёды ёсць асабліва цяжкія хворыя, якім лекаў трэба значна болей, вось і дзеліш на ўсіх роўна. І рашаеш: каму аддаць усю дозу, а хто яшчэ патрывае... Мы ведаем, што на сховішчах знаходзіцца лекавы "клан-дайк", але бальніца, натуральна, не мае сродкаў для іх набыцця. Асабліва не хапае гарманальнай групы прэпаратаў. Напрыклад, прадніза-лону, гідракартызону... Божа, пра што мы гаворым! Зусім нядаўна не было звычайнага бінту і гіпсу. А наша ж бальніца спецыфічная, бо яна прымае на сябе ўвесь начны траўматызм горада!

Гуманітарную дапамогу мы атрымліваем дзякуючы намаганням нашага галоўнага ўрача. Але лекаў паступае шмат, а тэрмін карыстання часам канчаецца праз трыццаць дзён. Бачыце: то пуста, то густа.

Асноўнымі пацыентамі рэанімацыйнага аддзялення заўсёды былі людзі сталага ўзросту, а ў іх — кардыялогія, рэабілітацыйны перыяд пасля аперацыі. Ёсць і традыцыйны "востры" пацыент. Мы ледзь паспяваем зрабіць неабходнае, "на лірыку" часу няма. Дый стомленасць вялікая, калі працуеш на "знос".

Нягледзячы на спякотнае лета, шмат ахвяр дарожных здарэнняў. Сёння ў аддзяленні 20 чалавек, але гэта не паказчык, ноч на ноч не прыходзіцца. Апошнім часам усё часцей прывозяць людзей з нажавымі ці кулявымі раненнямі, нават прашытых аўтаматнай чаргой... Дапамогу аказваем адразу і аднолькавую для ўсіх. Для нас няма розніцы: ахвяра ці наадварот. Інакш нельга...



Але амаль 80 працэнтаў нашых "аварыйных" пацыентаў нідзе не працуюць, а гэта значыць, што яны не плоцяць падаткаў дзяржаве, якая лечыць іх. Трымаецца ж медыцына за наш з вамі кошт. Трэба даўно ўвесці страхавы поліс, як у развітых і неразвітых краінах. Не трэба ламаць галаву і зноў адкрываць Амерыку. Грошы са страхавога поліса будуць даходзіць да канкрэтнай бальніцы, да канкрэтнага пацыента, прычым для адзінокіх і бедных павінны быць ільготы. Дарэчы, сёння не зусім зразумелая і функцыя раённых аддзелаў аховы здароўя. Навошта яны, уласна, калі ў кожнай клініцы і паліклініцы ёсць галоўны ўрач? На фінансаванне гэтых структур ідуць жа немалыя грошы...

А паглядзіце на нашы заробкі. Каб пракарміць сям'ю, мы вымушаныя працаваць на дзве стаўкі. У месяц дадаткова па 15-18 дзяжурстваў. Заўважце, акрамя 10 працэнтаў дадатку да заробку, мы не атрымліваем ні адгулаў, ні дадатковага адпачынку. Урач змагаецца са смерцю, а ў галаве думка: як здабыць на жыццё... Вядома, што не кожны спецыяліст атрымлівае 600-800 тысячаў. Але ці вялікія гэта грошы за 16 гадзін працы, дзе кожны дзень чужое жыццё ці смерць ты "прапускаеш" праз сябе?

**Валянцін Краўчанка,** хірург I катэгорыі брыгады хірургаў. Ён, калі можна сказаць, папулярны спецыяліст сярод калегаў, працуе ў БХД з 1980 года. Гэта нешматслоўны чалавек. Магчыма, спецыяльнасць наклала гэты адбітак. Караценькія, канкрэтныя фразы, без філасофскіх адступленняў. Цікава, але я адразу пазнала яго. Тры гады таму я трапіла на хірургічны стол з апендыцытам. Спалоханымі вачыма сачыла за рухамі хірургаў, лавіла кожнае не зразумелае мне слова ў аперацыйнай. Гэта амаль адзінае, што ты можаш сабе дазволіць, пакуль анестэзіёлаг робіць сваю справу. У нейкі момант мне падалося, што аперацыя вось-вось пачнецца, бо ўся брыгада пастала ў нерухомасці каля мяне. Акуратненька, з двух бакоў... Я не стрымалася і закрычала, маўляў, не чапайце мяне, я ўсё чую. Вось тады Валянцін Мяфодзевіч і прапанаваў мне спяваць песні, каб не атрымалася "памылка". Я і запела доўгую, цяжкую жніўную песню... З тае пары мы не сустракаліся, дзякаваць Богу. Дарэчы, прабачце за інтымную падрабязнасць, але маё шво амаль не бачна. Дэталь пераконвае!

Прыводжу некаторыя стрыманыя адказы-разважанні хірурга В.Краўчанкі. "... У нас, хірургаў, іншая спецыфіка: хутка дапамагчы чалавеку і, крый Божа, не памыліцца ў дыягназе. Дыягносты нашы — добрыя прафесіяналы".

"... вось толькі хірургічны інструментарый не вытрымлівае аніякай крытыкі — стары, зношаны. Заўсёды нешта выдумляеш, каб выйсці з цяжкага становішча, калі за ноч па некалькі аперацый".

"... за гады маёй працы не было мецэнатаў-спонсараў, што падаравалі б бальніцы інструменты. Такі вопыт мае пакуль толькі культура. Спадзяемся, што нам пашэнціць калі-небудзь".

"... магчыма, і было б лягчэй, каб хірургу дазволілі займацца прыватнай практыкай. Законы ўсё роўна трэба перагледжваць. Дзе вы бачылі бясплатную медыцыну, дзе разліковая манета — жыццё чалавека? Кардынальныя змены ў нашай сістэме надыдуць праз гадоў 50, не менш. Я — аптыміст, але жыццё і практыка дэманструюць іншае. Сваім дзецям я на тры пакаленні "закажу" — не будзьце ўрачамі!"

"... у мяне вялікія спадзяванні на нашу айчынную фармакалогію. Хутка мы атрымаем першую партыю айчынных антыбіётыкаў, бо пад Мінскам будуецца фармакалагічны завод. Магчыма, з цягам часу мы станем вядомымі вытворцамі лекаў групы антыбіётыкаў, і нашы прэпараты хутка заваююць сусветны медыцынскі рынак. Па медыцынскім бартэры мы зможам атрымаць сучасны хірургічны інструментарый і неабходную тэхніку для Цэнтра гастратэрапіі, які даўно створаны на базе нашай бальніцы. Пакуль гэта ў марах..."

Але зазваніў тэлефон, і, забыўшыся на мяне, хірург загадаў: "... рыхтуйце два сталы, падымайце брыгаду. Я зараз". Ідучы па доўгім калідоры бальніцы, хірург усё ж здзівіў мяне на развітанне:

— Ці не вы былі на аперацыі ў жніўні 199... і спявалі народную песню на стале?

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

# ЖНІВО — СПРАВА ДРУГАСНАЯ?



Жніво пачалося. На жаль, спякота ў каторы раз застала хлебаробаў знянацку: камбайны выйшлі ў поле задоўга да жніва, якое звычайна пачыналася ў жніўні.

Але няма на душы спакою: па прагнозах спецыялістаў з Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, сёлета трэба чакаць ураджаю на 20-25 працэнтаў меншага, чым летась. Хаця тыя ж самыя спецыялісты і заспакойваюць нас: не хвалюйцеся, маўляў, сёлетняга ўраджаю хопіць: будзе па 600 кілаграмаў збожжа на душу (а гэта, як сцвярджаюць яны, паказчык не-благі) — ды баюся, каб хоць не давялося нам ізноў карыстацца хлебнымі карткамі.

Як жа мы дайшлі да такога жыцця? А вельмі проста. Выдзеленыя ўрадам рэспублікі 500 мільярдаў "зайчыкаў" на правядзенне жніва гаспадаркі "растранжырылі" ў імгненне вока — усе сродкі пайшлі на аплату даўгоў. Трэба ж было разлічвацца і з "Сельгасхіміяй", і з іншымі структурамі — хто ж хоча мець справу з тымі гаспадаркамі, якія па вушы ў даўгах? Ясна: ніхто. Толькі разлічыўшыся з даўгамі, калгасы і саўгасы маглі спадзявацца на дапамогу "крэдытораў". І ў той жа час яны засталіся без капейкі грошай на набыццё сельскагаспадарчай тэхнікі, рамонт, на бензін і гаруча-змазачныя матэрыялы. І да Бога звяртацца не мае сэнсу — спякота і не думае суняцца, ды і да ўрада не дастукаешся — жабрацкая краіна не можа дапамагчы жабрацкай сельскай гаспадарцы.

І што ж мы маем на сёння? На 25 ліпеня ў рэспубліцы зжата збожжа на плошчы 100 тысяч гектараў. Але камбайны выйшлі ў поле там, дзе спякота ўжо добра "папрацавала". Збожжа выгарэла, і пра гэта сведчыць занадта нізкая ўраджайнасць — прыкладна 23 цэнтнеры збожжа з гектара. У Гродзенскім раёне ўраджайнасць куды большая — да 44 цэнтнераў з гектара. Але гэтая лічба, хутчэй, з серыі прыемных выключэнняў, бо на Брэстчыне , якая найбольш пакутуе ад спякоты, падобная ўраджайнасць — сапраўды фантастычная.

Так, з гаспадарак Брэсцкай вобласці ўжо паступіла на дзяржаўныя хлебасховішчы першая тысяча тон збожжа, а некаторыя гаспадаркі нават рыхтуюць убраныя палі пад пасевы крыжакветных. Аднак беларускім хлебаробам прыйдзецца вой як папацець: яшчэ на двух мільёнах 600 тысячах гектараў выгарае збожжа. Нягледзячы на экстрэмальную сітуацыю, у Беларусі сёлета на палі выйдзе менш тэхнікі, чым летась: 25,3 тысячы камбайнаў і 4 тысячы 10 жатак. Бензіну ды гаруча-змазачных матэрыялаў хапае на два-тры дні. У кішэнях калгасаў ды саўгасаў гуляе вецер. І ўсё ж за 20-25 дзён рэспубліка можа ўбраць збожжавыя, лічаць спецыялісты Мінсельгасхарча, праўда, пры пэўных умовах.

Але зараз вёска чакае грошай. Найпершае пытанне, якое патрабуе тэрміновага вырашэння, — адкрыццё крэдытных ліній для сельскай гаспадаркі. Літаральна за колькі дзён да зацвярджэння парламентам на пасаду прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіл Чыгір, тады яшчэ старшыня Рады Белаграпрамбанка, звярнуўся да ўрада рэспублікі з просьбай выдзеліць сельскай гаспадарцы сродкі на жніво. Урад Вячаслава Кебіча нічога не паспеў зрабіць, бо ўжо 22 ліпеня прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка загадам зацвердзіў прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра. Аднак новаспечаны глава ўраду не спяшаецца дапамагаць вёсцы, хаця з тыдзень таму назад так клапаціўся пра гэта. Можа, вясковыя клопаты здаюцца яму нязначнымі на фоне агульных праблем? А пакуль сонца бязбожна вынішчае пасевы, а сельскагаспадарчая тэхніка стаіць. І хоць прагнозы спецыялістаў Мінсельгасхарча не дужа змрочныя, але ж прагнозамі сыты не будзеш.

А наперадзе — халодная зіма. Будзем спадзявацца — не галодная...

**Юрась ДУБІНА**

**Фота А.СТАДУБА**

## ВЫТОКІ

# ХАДКЕВІЧЫ

Прозвішча Хадкевічаў паходзіць ад "Ходка", што ў скарочаным вымаўленні хутчэй за ўсё азначае Ходар, ці Фёдар. Родапачынальнікам Хадкевічаў лічыцца Ходка Юр'евіч, які згадваецца ў гістарычных крыніцах з 30-х гадоў XVст. Ягоны сын Іван, будучы кіеўскі ваявода, паходзіў са старажытнага баярскага роду, які асеў на Кіеўшчыне. У час татарскага набегу на Кіеў у 1482г. Іван разам з сям'ёй быў узяты ў палон. "На уведение пресвятое Богородицы, — адзначаецца ў летапісе, — взяли татарове Киев и воеводу киевского пана Ивана Ходкевича и с панею, з сыном паном Александром..." Іван Хадкевіч памёр у татарскім палоне ў 1484г. Жонка яго з сынам з дапамогаю Казіміра Ягелончыка змагла выкупіцца з няволі. Нашчадкі Івана Хадкевіча ўвайшлі ў найбольш уплывовыя слаі грамадства, займалі важнейшыя дзяржаўныя пасады, валодалі шматлікімі маёнткамі, пераважна ў заходніх землях Беларусі і Літвы.

Узвышэнне Хадкевічаў пачалося з Аляксандра Іванавіча, вядомага палітычнага і культурнага дзеяча, каралеўскага маршалка і навагрудскага ваяводы. Разам з князем Юрыем Слуцкім і Іванам Гарнастаем ён быў апекуном Кіеўскай мітраполіі. Ад вярхоўнай улады Хадкевіч атрымаў значныя зямельныя надзелы. Гэтыя прывілеі зафіксаваны ў Метрыцы Вялікага княства Літоўскага. У адной з чалабітных Аляксандра Іванавіча, пададзеных вялікаму князю літоўскаму, у прыватнасці адзначалася: "А блудовскую пущу люди наши розробили (гэта значыць, засвоілі) и домы свои поселили (20 служб)".

Сярод вялікакняскіх падарункаў Хадкевічу быў і Супрасль. Гэта тут у канцы XV — пачатку XVI ст. быў пабудаваны адзін з найбуйнейшых у княстве і Польшчы праваслаўных манастыроў. Дзякуючы шчодрым ахвяраванням кцітараў ён хутка ператварыўся ў заможны праваслаўны манастыр. Тут знаходзіліся багатыя зборы каштоўных рэчаў, шыкоўнага царкоўнага ўбрання, абразы, упрыгожаныя аправамі з каштоўных камянёў, шмат рукапісных і друкаваных кніг (у тым ліку выданні Ф.Скарыны). Аляксандр Хадкевіч набыў для манастырскай бібліятэкі больш за 100 рукапісных "кодэксаў".

У рэестры 1557г. ўпамінаюцца рэчы, дараваныя манастыру мітрапалітам Іосіфам Солтанам і Іеранімам Аляксандравічам Хадкевічам. У прыватнасці, манастыр атрымаў ад апошняга абраз Багародзіцы ў багатай аздобе. Пры актыўным удзеле Хадкевічаў былі створаны першыя статуты Супрасльскага манастыра, узводзіліся новыя храмы і іншыя пабудовы. Дзякуючы непасрэднай шчодрай падтрымцы Хадкевічаў у манастыры ўжо ў першыя дзесяцігоддзі XVIст. існавалі буйныя кнігазборы, развіваліся мастацкія рамёствы, іканапіс, кнігапісанне, царкоўная музыка. Манастыр стаў сховішчам фамільных дакументаў сям'і Хадкевічаў.



Пасля смерці Аляксандра Хадкевіча паміж яго сынамі Іеранімам, Рыгорам і Юрыем у 1550г. адбыўся падзел уладанняў. У выніку ўтварыліся тры лініі роду Хадкевічаў: Іеранім прадстаўляў лінію "на Школове, Мышы, Быхаве"; Рыгор — бераставіцкую, неўзабаве згаслую; малодшы, Юрый, — супрасльскую. Новыя кцітары засведчылі, што яны не будуць "парушаць межаў манастырскіх", а ў 1568г. Рыгор і Юрый Аляксандравічы зацвердзілі першапачатковы статут манастыра.

Палітычныя падзеі ў той ці іншай меры закранулі і Супрасльскі манастыр. Не без уплыву кцітараў у цяжкія гады Лівонскай вайны архімандрыт манастыра выставіў у войска Вялікага княства Літоўскага значную групу ўзброеных коннікаў. Аказваючы актыўную дапамогу Супрасльскаму манастыру, Хадкевічы не забывалі пра праваслаўных і ў іншых сваіх уладаннях. Так, станаўленне рэгулярнага беларускага кірылічнага кнігадрукавання звязана з заснаваннем Заблудаўскай друкарні, дзе працавалі запрошаныя Рыгорам Аляксандравічам Хадкевічам маскоўскія першадрукары — Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец. Упершыню на тэрыторыі Усходняй Еўропы тут было выдадзена "Евангелле вучыцельнае" (збор тлумачэнняў і павучэнняў розных царкоўных пісьменнікаў, выдатных прапаведнікаў і асветнікаў, у тым ліку некаторыя творы Кірылы Тураўскага).



*Свята-Благавешчанская царква (перад разбурэннем) у Супраслі каля Беластока.*

З сярэдзіны XVIст. ў Вялікім княстве Літоўскім пачаў распаўсюджвацца рэфармацыйны рух, падтрыманы ў асноўным магнатамі і шляхтай. Для буйной беларускай і літоўскай шляхты Рэфармацыя была сродкам абмежавання ўплыву каталіцкай царквы, якая займала пануючае становішча і падтрымлівала вярхоўную ўладу ў яе імкненні заключыць дзяржаўную унію паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім. Супраць уніі актыўна выступалі Радзівілы. Хадкевічы рэальна ацэньвалі палітычныя абставіны і падтрымлівалі ідэю стварэння агульнай дзяржавы, але пры ўмове захавання статуса незалежнасці Вялікага княства Літоўскага.

Рэфармацыя ў пэўнай ступені садзейнічала ўключэнню Беларусі ў еўрапейскі культурна-гістарычны працэс, аднак яна ўплывала і на працэс каталізацыі беларускай шляхты. Пераход да каталіцкай і пратэстанцкай веры вёў да вельмі хуткіх запазычванняў розных праяў польскай культуры, у тым ліку польскай мовы. Паказальны выпадак, які адбыўся з кальвіністам Юрыем Аляксандравічам Хадкевічам. Будучы паслом у Маскве, ён на дыпламатычным прыёме звярнуўся да цара Івана IV з просьбай дазволіць гаварыць з ім праз перакладчыка: "... я при государе своем, милостивом короле с молодых дней, и язык мой русский посмешался в пословицах с польским языком, и которые речи говорить мне перед тобою государем, и тех речей моих не узнаешь, что начну говорить".

У другой палове XVIст. некаторыя прадстаўнікі роду Хадкевічаў прынялі кальвінізм або перайшлі ў каталіцтва. Змена адной веры на другую сярод Хадкевічаў неадназначна адбілася на становішчы манастыра, асабліва калі ён на пачатку XVIIст. перайшоў да уніятаў. Зменшылася колькасць кірылічных кніг у манастырскай бібліятэцы, адпаведна ўзрасла ўдзельная вага польска-лацінскай свецкай і царкоўна-рэлігійнай літаратуры. Разам з тым у Супрасльскім манастыры захоўваліся і развіваліся (вядома, у спецыфічных формах) традыцыі старажытнарускай і старажытнабеларускай літаратуры, славянскай пісьменнасці. З канца XVIIст. тут дзейнічала друкарня, з якой выйшла каля 100 кірылічных выданняў, у асноўным літургічнага, навучальнага ды павучальнага характару. У XVIIIст. выдавалася стараверская літаратура. З другой паловы XVIIIст. ўзрастае колькасць навуковай і асветніцкай літаратуры, белетрыстыкі (пераважна на польскай мове). Тут у 1784г. пабачыў свет вядомы твор Дж.Свіфта "Падарожжа Гулівера".

Апека свецкіх кцітараў мела вялікае значэнне на першых этапах дзейнасці манастыра. Па меры таго, як ён усё выразней рабіўся самастойным царкоўна-рэлігійным, культурным і гаспадарчым цэнтрам, свецкае кцітарства набывала больш ускосныя формы, і самі Хадкевічы параўнальна рэдка ўмешваліся ў духоўную дзейнасць манастыра.

Кціtарская, мецэнацкая (як і палітычная, ваенная, адміністрацыйная і культурная) дзейнасць роду Хадкевічаў заслугоўвае асобнага даследавання і не адной манаграфіі. Нашчадкі супрасльскай лініі Хадкевічаў пакінулі ВКЛ у сярэдзіне XVIIIст. і перанеслі пастаянную рэзідэнцыю ў атрыманыя імі ў спадчыну ад Сапегаў уладанні Млынаў на Валыні. Пасля першай сусветнай вайны, у 1919 і 1937 гг., млынаўскія архівы былі перавезены ў Кракаў. Даследаванне гэтых матэрыялаў (а таксама дакументаў архіва уніяцкіх мітрапалітаў у Санкт-Пецярбургу) дазволіць прыадчыніць яшчэ не адну слаўную старонку ў дзейнасці гэтага роду і ў цікавай шматвяковай гісторыі Супрасльскага манастыра.

Супрасльскі манастыр дзейнічае і сёння. Яго актыўна падтрымліваюць беларусы Беласточчыны і тамтэйшае праваслаўнае брацтва.

**Людміла ІВАНОВА**






29 ліпеня экзархат Беларусі атрымаў каштоўны падарунак — 460 абразоў XIX ст., якія перадалі супрацоўнікі філіі Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея. Акт аб перадачы высокамастацкіх твораў падпісалі міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч і Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. У сваіх прамовах яны выказалі ўпэўненасць у вялікім плёне супрацоўніцтва на глебе адраджэння нацыянальнай культуры.

Фота
**Аляксандра СТАДУБА**

КАНТРАМАРКА

# ОПЕРА-ДОСЛЕД МАРАЛІ ГРАМАДСТВА

**Заўважнай падзеяй у культурным жыцці Мінска сталася прэм'ера оперы Дж.Вердзі "Рыгалета", якая адбылася напрыканцы сезона на сцэне ДАВТ Беларусі. За неверагодна кароткі тэрмін (крыху больш за месяц) трупа здолела выканаць найскладанейшыя рэжысёрскія задачы, узнавіць знакамітыя вердзіеўскія інтанацыі.**

Рэжысёр-пастаноўшчык з Санкт-Пецярбурга Ю.Аляксандраў, вядомы аматарам опернага мастацтва па ягонай дыпломнай рабоце — камедыі "Дон Паскуале" Г.Даніцэці — і больш познімі фантастычнымі "Казкамі Гофмана" Ж.Офенбаха, што адзінаццаць гадоў таму літаральна ўзарвалі тэатр, зноў уварваўся сюды, нібы струмень свежага паветра, прапанаваўшы ўласную сцэнічную версію вядомай оперы.

Так, нязвыклым, незнаёмым, жорсткім атрымаўся гэты спектакль. Менавіта спектакль, бо, нягледзячы на не зразумелую для большасці італьянскую мову (опера выконваецца на мове арыгінала), "Рыгалета" ад першай да апошняй музычнай фразы трымае слухачоў у напружанні. Кожная сцэна чытаецца і разгадваецца пры дапамозе шчодрых тэатральных сродкаў: праз дэкарацыю (сцэнограф Л.Ганчарова) і выразную дэталь (чаго вартая, напрыклад, сцэна з яблыкам у пачатку II-й дзеі!), праз мізансцэну (выдатна пастаўленыя сцэны з Пажам, харавыя сцэны і мноства іншых), праз інтанацыю, праз святло і касцюмы (мастак па касцюмах Э.Грыгарук, мастак па святле С.Мартынаў).

З першых хвілін спектакля, калі павольна рассоўваецца заслона, мы бачым дзіўную канструкцыю-дэкарацыю — выгнутую, знікаючую дзесьці ў бясконцасці: ці то загадкавую лейку, якая вабіць і зацягвае, ці то нейкі гіганцкі рог (які мы пазней у паменшаным выглядзе ўбачым на шыі Рыгалета і які ён калі-нікалі будзе прыкладаць да вушэй, каб выдаць пачварны, непрыстойны гук), ці то чыюсьці жахлівую мазгавую звіліну, у якой і нарадзіўся ўвесь гэты кашмар і гатовую ў другі раз дзеля эксперымента прыдумаць нешта яшчэ больш пачварнае.

І вось гэтую прастору раптоўна запаўняюць людзі ў пышных элегантных касцюмах і пачынаюць разыгрываць вядомы сюжэт. Але, калі глядзіш спектакль, дзе ўсё падпарадкавана думцы пастаноўшчыкаў, дзе няма месца дробным дэталям і надакучлівым падрабязнасцям, дзе ўсё накіравана на ўважлівы псіхалагічны аналіз, а сцэна часам нагадвае своеасаблівую лабараторыю, нават бальніцу (вялікую ролю ў стварэнні гэтага эфекту адыгрывае святло), паступова пераконваешся ў тым, што тут, на сцэне, безадносна да зыходных часу і месца, у нейкім новым вымярэнні быцця ставіцца своеасаблівы псіхалагічны дослед, падчас якога высвятляецца, хто ёсць хто на самой справе.

І пад гэтым пільным позіркам губляюць адпаведнасць былым азначэнням усе героі оперы: амаль усе яны цяпер увасабляюць свет зла і гвалту. Гэтае зло вечнае, усеахопнае. Яно можа быць знешне прывабным і агідным, тонкім, нібыта бяскрыўдным, але спапяляе ўсё жывое, нават самога сябе.

Гледзячы спектакль, пераконваешся, што для Ю.Аляксандрава Рыгалета — вельмі надзённая тэма, бо для яго страшней за Рыгалета няма нічога. На думку рэжысёра, наша грамадства з-за сваёй глыбокай амаральнасці ўвесь час абараняла Рыгалета, выцягвала на паверхню ягоныя пакуты, уздымала да рэвалюцыйнага ягоны пратэст і тым самым апраўдвала нашу дваістую мараль: у сям'і адзін, на



працы — другі і г.д.

Але няпраўда пранікае і ў сям'ю, і мы робімся сведкамі таго, як адзін бок жыцця Рыгалета знішчае другі — усё чыстае, што было ў яго, — Джыльду.

Гэты жаночы вобраз таксама пазбаўлены ранейшай адназначнасці, штучнасці і цукерачнасці. У новым спектаклі гэта гераіня, якая за кароткі прамежак часу праходзіць шлях ад дзіцячага, наіўнага светаўспрымання, ад здзіўлення ўсім тым, што тоіць у сабе вонкавы свет з ягонымі небяспекай і прывабнасцю, да спазнання наймацнейшых чалавечых пачуццяў — кахання, літасці, самаахвярнасці. Гэты вялікі духоўны шлях яшчэ больш пашырае бездань паміж бацькам і дачкою, і таму такой арганічнай і натуральнай выглядае нечаканая фінальная сцэна оперы.

Бясспрэчны поспех, які мелі першыя прэм'ерныя паказы спектакля, у вялікай ступені стаўся магчымым дзякуючы цудоўнаму ансамблю выканаўцаў галоўных роляў, сапраўднаму акцёрскаму і вакальнаму майстэрству А.Саўчанкі і Ю.Бастрыкава (Рыгалета), Н.Кастэнкі і Т.Глаголевай (Джыльда), І.Шупеніча (Герцаг), а таксама Н.Рудневай і Н.Галеевай (Маддалена), А.Мельнікава і А.Гардынца (Мантэронэ і Спарафучыле) і іншых.

Вялікая заслуга ў засваенні музычнай мовы гэтага спектакля належыць маэстра А.Анісімаву і аркестру пад ягоным кіраўніцтвам. Дакладнае выкананне партытуры для дырыжора — першая ўмова прафесіяналізму. Але ж гэта не ўсё. Галоўнае, як лічыць А.Анісімаў, праз музыку данесці да слухача думку самога кампазітара, ягоныя этычныя і эстэтычныя ідэі, але разам з тым выказаць уласны роздум пра адвечныя праблемы быцця.

Прэм'ера адбылася ў неспрыяльныя для тэатраў спякотныя дні чэрвеня. Тым не менш ДАВТ два вечары запар збіраў поўныя залы гледачоў, якія пасля спектакля доўга і ўдзячна віталі артыстаў.

Сумна развітвацца з тэатрам на цэлы месяц. Але наперадзе — новы сезон, новыя сустрэчы з мастацтвам. 11 верасня операй "Рыгалета" ДАВТ Беларусі зноў адкрые свае дзверы ўсім прыхільнікам Прыгажосці.

**Таццяна АЛЯКСАНДРАВА**

*На здымку:* Рыгалета (А.Саўчанка) і Джыльда (Н.Кастэнка).

**Фота Васіля МАЙСЁНКА**

# АД ТЭЛЕШОКА ДА ТЭЛЕШОПА

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

## ТВОРЧАСЦЬ І ПАЛІТЫКА

Ніхто не аспрэчвае думкі, што ў паважаючай сябе дзяржавы павінны быць у руках пэўныя рычагі кіравання камунікацыйнай палітыкай. Але палітыку не толькі трэба мець, трэба знаходзіць формы яе распрацоўкі. Яна ствараецца не ў выніку бясконцага абмеркавання, якому дзяржаўнаму органу падпарадкаваць электронную прэсу, пад якую галіну ўлады — заканатворчай ці выканаўчай — прыбіцца эфірнай хвалі. Менавіта гэтыя пытанні сёння высоўваюцца на першы план. Быццам няма ў свеце прыкладаў, якія можна было б узяць за аснову. У нас мараць: вось прымем законы і тады зажывем! Справа ў тым, якія законы будуць адпавядаць нашай культурна-этычнай норме, якія законы ўпішуцца ў тую субстанцыю, што цяпер называюць модным словам "ментальнасць". Але ж і самі французы, якія гэты феномен убачылі ў сучасным поліцэнтрычным культурным асяроддзі, маюць цяжкасці ў яго дакладным вызначэнні. Вось дзе патрэбны сур'ёзныя навуковыя даследаванні беларускай камунікацыйнай сферы, каб на іх падставе хаця б у агульных рысах мець уяўленне пра змест камунікацыйнай палітыкі дзяржавы. З другога боку — нельга цалкам не давяраць творчаму вопыту тэлевяшчання. Магчыма, маюць рацыю тыя практыкі, якія кажуць: дайце нам глыток свабоды, а мы самі знойдзем, куды ісці.

А раптам яно і сапраўды так? Дык дадзім тэлевізійшчыкам свабоды. Хай самі яны знойдуць тыя формы вяшчання, якія, на іх думку, немагчыма стварыць без найноўшых "бэтэкамаў", без камп'ютэрнай графікі, без зручных і кампактных пультаў мантажу. Хай паспрабуюць у пэўным перыядзе конкурснага часу, з рэгулярным і рэпрэзентатыўным сацыялагічным даследаваннем стаўлення аўдыторыі, пра якое зараз можна толькі здагадацца. Тады самі па сабе "засохнуць" сумныя дыскусіі пра адсутнасць творчай свабоды. Няма калі будзе дыскутаваць. Трэба будзе схапіцца за галаву, каб нарэшце задумацца — з якой мэтай ты выходзіш у эфір, у якім выглядзе паўстаеш перад публікай?

Глядзіш зараз на некаторых нашых ветэранаў тэлеэкрана з сівымі скронямі, з невыразным вымаўленнем, і становіцца шкада гэтых, напэўна, неблагіх людзей. Пакутуюць у тэлекадры журналісты Ігар Дылеўскі, Аляксандр Кіраняйнен, пасівеўшыя дыктары. Нямала ведаюць яны пра кантактаванне з гледачамі. Дык, можа, сапраўды, нестае ім адно толькі мікрафонабулаўкі, каб задаць цікавае, чалавечае пытанне суразмоўцу замест завучанага: "За каго вы будзеце галасаваць?". А адказ як рэха: "За Кебіча, кебіча, кебіча..."

Падчас прэзідэнцкай гонкі агаліліся самыя хворыя кропкі ў нашым электронным арганізме. Гэта тая самая "залозная" тэхналогія, у якой чалавек — прывадны рэмень дзяржаўнай машыны прапаганды і агітацыі. Сённяшняй самастойнасці хапае толькі на тое, каб скардзіцца адзін аднаму на кожны новы загад з Саўміна. Іншы раз здаецца, што свае ўласныя перадачы яны наогул не бачаць. Інакш як можна растлумачыць, што плыве і плыве шэрая публіцыстычная плынь? А вось мільганулі ў расейскіх "Вестях" кадры з Кіева: тэледэбаты "іх" кандыдатаў на прэзідэнцкае крэсла. Які экранны размах! Якое сучаснае афармленне студыі, з праекцыйным велізарным маніторам, з прамым падключэннем вуліцы, з натоўпамі зацікаўленых журналістаў і назіральнікаў.

## "БОЖЫ ДАР" І КАМЕРЦЫЯ

Пытанне пра ступень таленавітасці той ці іншай тэлевізійнай асобы, паводле нашых няпісаных правілаў, не прынята абмяркоўваць. Уся крытыка на іх адрас абмяжоўваецца агульнымі словамі наконт персаніфікацыі экраннага дзеяння. Сапраўды, без чалавека — гаспадара сцэнарнай інтрыгі — перадача не адбудзецца. Дык вось, пра інтрыгу ці, дакладней кажучы, пра драматургію. Уявіце, калі можаце, сабе такі эпізод з мастацкага жыцця. Да прыкладу, прыходзіць чалавек у тэатр і кажа, што напісаў п'есу. Яму ў адказ: а вы хто такі? Не Чэхаў, канешне, але пісаць мяне навучылі спачатку на школьнай парце, а потым у вэнэушнай аўдыторыі. У лепшым выпадку п'есу, прачытаўшы, вяртаюць назад, у найгоршым — адразу ж перад носам такога аўтара ляпнуць дзвярыма. З "чэхавымі" ў стагоддзе стандартаў, копій і тыражу склалася вялікае напружанне.

На тэлебачанні і сёння ўсё значна прасцей. Гэта не тэатр. Гэта канвеер, вялікая індустрыя копіі і тыражу. Тут шмат залежыць ад артыстызму вядучага, ад яго прыроды, ад узроўню культуры, ад інтэлекту.

У другой палове 80-х гадоў на беларускім тэлеэкране адбыўся своеасаблівы выбух новых творчых ідэй. У тэлеэфіры з'явіліся такія таленавіта створаныя праграмы, як мастацка-публіцыстычная "Ліра", маладзёжны штотыднёвік "Крок", інфармацыйныя выпускі "НІКА". Нельга сказаць, што ў межах тэлевізійнага стандарту быў вынайдзены ровар. Не, проста ў людзей, якія з'яўляліся на экране, быў свой, уласцівы толькі ім "божы дар". Яны паспяхова рэалізоўвалі яго, выкарыстоўваючы ўстойлівыя тыражныя формы эфірных трансляцый. І вось што характэрна: з тых, першых энтузіястаў тэлеперабудовы нікога сёння ў эфіры не ўбачыш — ні Вольгі Іпатавай, ні Зміцера Філімонава, ні Надзеі Бабкінай. Усе яны зараз працуюць па-за дзяржаўным тэлебачаннем.

Чаму дзяржаўны тэлеканал не зацікаўлены ў захаванні і развіцці творчай асобы — гэтую загадку не разгадала б нават прынцэса Турандот. Час ад часу з'яўляліся цікавыя, перспектыўныя для вядзення складаных тэлепраграм асобы. Скардзіліся, што не хапае на БТ аналітыкаў. Але кароткі час там працаваў Анатоль Майсеня. Не ўсё адразу ў яго атрымлівалася. Але было бачна, што падставы для прафесійнага станаўлення ёсць. Тым не менш амаль імгненна знік з экрана. Ці тая ж Алена Лукашэвіч. Працавала ў маладзёжным вяшчанні, у публіцыстычным жанры, аднак зноў сама па сабе. Цяпер яна толькі зрэдку з'яўляецца на экране. І, здаецца, нікому сярод прафесіяналаў няма справы да яе экраннага вобраза.

Напрошваецца несуцяшальны адказ на вострае пытанне пра мастацтва візуальнага іміджу: дзяржаўнаму тэлебачанню не патрэбны таленты. Тут нівеліруюць, заганяюць на "свой" канвеер бяздумнасці, абыякавасці, піру падчас чумы. Па колькасці забаўляльных праграм БТ можа параўнацца з якім-небудзь вар'етэ. Гэтыя "вясёлыя" перадачы нагадваюць пагаворку "з чужога шалу галава круціцца". Чаму шалеюць нашы? Таму што з'явіліся мясцовыя фундатары. У іх свае віды на выкарыстанне экраннага часу. Яны плоцяць за рэкламу і... купляюць тэлевізійных людзей. Оптам і ў розніцу. Вось чаму варта зірнуць у бок тэлеэкрана, як убачыш ці "кока-колу" з нацыянальнымі, як вяшчае ролік, чырвона-белымі колерамі прахалоды і асалоды, ці каралеўскую мэблю, якую дыктарскай інтанацыяй аздабляе расфуфыраны Уладзімір Шаліхін.

Зразумела, што без рэкламы дзяржаўнаму тэлебачанню ў часы пошуку ідэалаў рынкавай эканомікі не абысціся. Аднак не зразумела іншае: чаму нельга адасобіць журналісцкую, тэлевізійную творчасць ад іншага роду творчасці — рэкламы? У размове з адным маладым чалавекам, які паспяхова наладзіў рэкламную справу і мог бы ўжо зараз узяць на свой кошт таленавітых аўтараў і вядучых, такім чынам вызваліўшы іх ад неабходнасці "прадаваць" сябе за невялікія ў час інфляцыі грошы, я зразумела, што гэтыя прапановы ляжаць па-за кантэкстам сённяшняй камерцыйнай дзейнасці. Прыбытак ад рэкламы — гэта сродак валодання ўласным "божым дарам", па сваім жаданні. На тых, хто не можа "прадацца" па высокай цане, асабліва маладых, пачынаючых журналістаў, глядзяць зверху ўніз. Тыя ж, хто ўдала знайшоў сабе "спонсара", жывуць прыпяваючы. Дык адкуль возьмецца таленавітая моладзь, якая б не шкадавала сіл на сур'ёзную творчасць? Які "спонсар" заплаціць за буйную публіцыстычную ідэю? За пісьменны паліталагічны аналіз падзей і з'яў?

Эпоха перабудоўчага рамантызму скончылася разам з празаічным вяртаннем Гарбачова з Фароса. Новае жыццё нацыянальнага ТБ адкрылася не з узвядзення новых палітычных барыкад, не з барацьбы за той ці іншы Вярхоўны Савет, за таго ці іншага прэзідэнта, а з усведамлення, што сітуацыя ў дзяржаве — гэта вынік адсутнасці ўплыву прафесійнай, кампетэнтнай электроннай прэсы, якая можа зрабіць раскол у грамадстве, а можа прапанаваць шлях яднання, да збалансаванасці палітычных інтарэсаў усіх слаёў грамадства.

Якім шляхам пойдзе дзяржаўны тэлеканал далей? Ці стане на ногі пасля ганебнага шоку, ці зможа шчыра глядзець у вочы страціўшых давер выбаршчыкаў? А можа, у пластыцы прыказчыка з камерцыйнага шопа кінецца абслугоўваць новых носьбітаў улады? Ці ўсё ж такі хопіць розуму, таленту, духоўнага такту, каб угледзецца ў твар свайго народа, пачуць яго голас і адгукнуцца на яго надзеі па-сапраўднаму глыбокім, канструктыўным творчым дзеяннем?

Напэўна, і ў новага корпуса палітычных лідэраў павінна хапіць здаровага сэнсу, каб не секчы запар галовы, а памяркоўна разабрацца са складаным становішчам нацыянальнага тэлебачання.

Дзяржаўнае кіраванне эфірнымі сродкамі, відавочна, павінна быць, калі яны ўтрымліваюцца на дзяржаўныя грошы. Аднак патрэбны і сучасны, дэмакратычны падыход да выпрацоўкі кампетэнтнай камунікацыйнай палітыкі, накіраванай на развіццё інтэлектуальных рэсурсаў нацыі, на стварэнне не толькі інфармацыйнай, а перш за ўсё культурнай прасторы з дапамогай аўдыёвізуальных камунікацый. Пажывем — пабачым, што ў новым часе нам пакажа нацыянальны тэлеэкран...

**Ніна ФРАЛЬЦОВА**

НАМ ПІШУЦЬ

# ЧУЖЫХ ДЗЯЦЕЙ НЕ БЫВАЕ



Ніколі не пісаў у газету, але пасля артыкула "Плач Сымонаўны" М.Рэвуцкага, што быў апублікаваны ў N22 "Культуры", вырашыў, што проста абавязаны напісаць. Таму што, па-першае, учынак гэтай, сталага веку жанчыны, якая ўзяла на сябе клопат аб выхаванні траіх унукаў-сірот, уяўляецца мне грамадзянскім подзвігам. І гэта не высокія словы, бо ў нашых сённяшніх варунках выгадаваць траіх дзяцей нават для маладой, поўнай сіл і жыццёвай энергіі жанчыны — усё роўна не проста, асабліва, калі мець на ўвазе татальны дэфіцыт, дарагоўлю, адсутнасць іншы раз самых неабходных рэчаў. Палітычныя дзеячы, на маю думку, заклапочаны зараз куды больш барацьбой за ўладу, за месцы ў розных "крэслах", чым жаданнем палепшыць нялёгкае жыццё пакрыўджаных лёсам малых.

Калі чытаў артыкул, я міжволі ўзгадваў сваё ўласнае дзяцінства, што прайшло ў цяжкія пасляваенныя гады. Так, я і мае сёстры, як і многія з нашага пакалення, — называем сябе "дзецьмі вайны".

У 41-м мне споўнілася пяць гадоў. Сястрычкі былі яшчэ маладзейшыя за мяне, а самай маленькай — Аленцы — было толькі два гадкі. Бацька адразу ж, у чэрвеньскія дні, пайшоў на фронт. Развітваючыся з ім ля ваенкамата, мы не ведалі тады, што не ўбачымся ўжо ніколі... Восенню 42-га года маці атрымала "пахаванку". "Ваш муж загінуў смерцю героя і пахаваны ў брацкай магіле..." Прайшло ўжо больш за пяць дзесяцігоддзяў, а я і па сёння не магу забыцца на вочы маці, поўныя адчаю і тугі ды на яе жудасны крык: "Вой, сіраціначкі мае! Як жа нам жыць цяпер?.."

А потым мама цяжка захварэла. Гора, непазбыўны смутак, голад, нястача, знясільваючая праца ад ранішняй зоркі да вячэрняй, каб як-небудзь пракарміць нас, малых, — усё гэта выклікала ў яе сухоты ў адкрытай форме. Памятаю, як пакутліва кашляла мама па начах.

Тры тыдні не дажыла маці да светлага дня Перамогі... Тады і з'явілася ў нашай хаце бабуля, татава маці, што жыла раней у суседнім раёне. Застаўшыся з намі адразу пасля пахавання, яна сказала: "Нічога, дзеткі. Трываць трэба. Цяпер разам жыць будзем". І бабуля замяніла нам, круглым сіротам, і мацярынскую пяшчоту, і бацькоўскую строгасць. Нялёгка давялося ёй з намі ў першыя пасляваенныя гады. Мужчын у вёсцы амаль не засталося, коней таксама не было. Аралі жанчыны ды падлеткі. Я, старэйшы, ды бабуля Марыя працавалі ў калгасе.

Прыгадваючы цяпер гэтыя дні, часта думаю аб тым, што, нягледзячы на голад і паўсядзённую нястачу, дзяцінства нашае ўсё ж такі не было нешчаслівым. Бабуля, пяшчотная і строгая адначасова, імкнулася стварыць у хаце атмасферу сям'і, еднасці, клопату, шчырасці, каб мы, пазбаўленыя бацькоў, не так востра адчувалі сваю нядолю. Яна, немаладая ўжо жанчына, удава, што страціла мужа, двух сыноў, нявестку, не скарылася злому лёсу.

Неаднойчы прыязджала да нас жанчына з райцэнтра з прапановай аформіць нас у інтэрнат, а Аленку — у Дом дзіцяці, маўляў, Марыя Піліпаўна ўжо ў такім узросце, калі ёй цяжка адной даглядаць і выхоўваць траіх дзяцей, даць ім належную адукацыю. Але бабуля перапыніла яе, адрэзаўшы: "Дзеці ў мяне застануцца. Мае яны". І ўсё. Так мы засталіся з бабуляй...

Цяпер, калі большая частка майго жыцця ўжо мінула, калі сам ужо стаў дзедам, я іншымі вачыма гляджу на сваё дзяцінства і на тую ролю, што адыграла ў ім бабуля. Што было б з намі, калі б не яна? Як бы склаліся нашыя лёсы?

Не магу паскардзіцца на жыццё. Усе мы вывучыліся, атрымалі адукацыю, ва ўсіх траіх ужо даўно свае дзеці, ёсць нават унукі. А вось бабуля ўжо пятнаццаць гадоў як пайшла ад нас... Амаль да апошняга дня яна працавала ў гародзе, прыбірала ў хаце, даглядала курэй.

... Сёння нікога не здзіўляе, што маладыя жанчыны, нарадзіўшы дзіця, кідаюць яго ў бальніцы. Маці адмаўляецца ад народжанага ёю немаўляці — што можа быць жудасней? Нікому не патрэбныя, "дзяржаўныя" дзеці — мы ўжо паспелі прызвычаіцца да гэтай сумнай з'явы. І таму вялікай любові і шанавання заслугоўвае бабуля Фруза, што сэрцам і душою зразумела: чужых дзяцей не бывае і не павінна быць. Хай Бог зробіць яе гады доўгімі і шчаслівымі.

**Дзмітрый КАРНЯЛЮК**

Стаўбцоўскі раён

**P.S.** Калі вырашыце надрукаваць мой ліст, калі ласка, ганарар за яго перадайце Ефрасінні Сымонаўне — хай якіх ласункаў малым купіць...



# "А ДУША ЎЖО ВЕДАЛА..."

Бываюць лісты, якія чытаць і радасна, і невыносна цяжка. Радасна таму, калі наш артыкул знайшоў водгук у чыймсьці сэрцы. Гэты ліст чытаць цяжка... Ён прыйшоў з Украіны, з вёскі Клювінцы Гусяцінскага раёна Цярнопальскай вобласці ад Зараны Слупскай, маці чатырохгадовага Віталіка, які памёр ад лейкозу. Яна адгукнулася на артыкул, надрукаваны ў чарнобыльскім нумары "Культуры" за 27 красавіка, дзе наш аўтар Р.Качаткоў апавядаў аб сваёй працы ў Дзіцячым онка-гематалагічным цэнтры ў Мінску.

"...Каторы ўжо раз перачытваю гэты артыкул і не магу стрымаць слёз. Амаль кожны дзень, асабліва перад сном, успамінаю "мінскі" перыяд свайго жыцця. Нават зараз перад вачыма: калідор, "нашы" палаты, мой Віталік, які сядзіць у калідоры на стале і не хоча есці. Тады яшчэ я нават не магла і ўявіць, што такое — страціць адзінае дзіця. А Віталік быў для мяне ўсім — маё жыццё, мая радасць, мой дарадчык. У нас з мужам пяць гадоў не было дзяцей, і калі нарадзіўся сын, урач сказаў мне: "Дзіця ў цябе ад Бога". Колькі я праплакала над ім, колькі ўсяго гаварыла яму ў гэтыя першыя дні ягонага жыцця, але і падумаць не магла, што Гасподзь так хутка забярэ маё дзіця ад мяне.

За ўсе чатыры гады свайго кароткага жыцця ён ніколі сур'ёзна не хварэў, затое апошні раз — назаўсёды...

За два месяцы да яго смерці я выпадкова сфатаграфавала Віталіка. У гэты час мы амаль два месяцы знаходзіліся дома, бо ў лячэнні патрэбны перапынак, і хлопчык быў зусім не падобны да хворага. Але калі я ўбачыла фатакартку, жахнулася... Мы з мужам тады нічога не сказалі адзін аднаму, толькі пасля смерці сына прызналіся, што абодва адразу зразумелі: гэта — канец. Гэтыя вочы, гэты позірк, усё, як было, адчуў душой і апісаў Руслан Качаткоў: "... засяроджанасць і нейкі недзіцячы, зусім нетутэйшы смутак, нібыта душа ведае, што жыць ёй засталося месяц ці два..."

Потым я бачыла гэты ж позірк, калі Віталік гуляў з дзвюма дзяўчынкамі ў бальніцы (хадзіць ён амаль ужо не мог). Усе трое адрозніваліся ад астатніх дзяцей: у іхніх вачах не было радасці, толькі непрыхаваныя туга і смутак.

... Віталік рана пачаў усё разумець, яшчэ за паўгода да сваёй смерці ён неяк нечакана запытаўся ў мяне: "А ты не спалохаешся, калі я ноччу пямру?" Перад апошнім ад'ездам у Мінск ён абышоў увесь дом і двор, ніводнага кутка не абмінуў, быццам бы ведаў...

Часцей за ўсё сын сніцца мне ў бальніцы. Я любіла выказваць яму свае думкі, і Віталік рабіў гэта таксама ахвотна. За тры дні да смерці ён сказаў мне: "Мамо, ти не корова, не поросятко, ти моя рідна, найдорожча мама... Я тебе люблю ще сильніше". Сказаў быццам бы па-дзіцячы, але ў голасе гучала ўжо нешта іншае.

Прайшло ўжо два гады пасля ягонай смерці, але я ўсё адчуваю: сын дзесьці побач, я нават размаўляю з ім. Калі я кажу яму, што сумую, — тады ён мне зноў сніцца. Адчуваю, калі ён хоча, каб я прыйшла на магілку, або адпускае дадому. А я жыву, "бегаю" на працу, усміхаюся, і ніхто не бачыць, як мне цяжка. Таму і вырашыла напісаць..."

Зарана Слупская з удзячнасцю ўспамінае беларускіх урачоў. Ёсць там і радкі, прысвечаныя аўтару.

"... Такія людзі, як ты, Руслан, так неабходныя былі нам, у тым цяжкім "бальнічным" жыцці. У цябе душа тонкая, добрая, ты заўсёды мог цярпліва выслухаць, пагаварыць, падтрымаць. А мне, як, мабыць, і іншым, так патрэбна была падтрымка далёка ад дому, ад родных. Я ўдзячна табе за гэта".

Вядома, мы друкуем толькі невялікія ўрыўкі са споведзі маладой маці, якая перанесла самае жахлівае, што можна сабе ўявіць. Але, чытаючы гэты вялікі ліст, разумееш — чужых дзяцей няма. Боль за іх, за іх лёс наш агульны, калі ты лічыш сябе Чалавекам.

# ВЯСЁЛКА НАД НАРАЧЧУ

Стала добрай традыцыяй на адну са зменаў у рэспубліканскім летніку "Зубраня" збіраць дзяцей з Беларусі, якія займаюцца творчай дзейнасцю. Так, Міністэрства адукацыі, Рэспубліканскі палац піянераў і школьнікаў і "Зубраня" правялі на беразе Нарачы змену нацыянальнага фальклору, міжнародны фестываль дзіцячага тэатральнага мастацтва, рэспубліканскі фестываль мастацкай творчасці выхаванцаў дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў пад назваю "Мой родны кут, як ты мне мілы...", змену "Юныя таленты", на якую прыязджалі лепшыя музыкі і мастакі.

І вось зноў, не парушаючы традыцыю, у "Зубраняці" сабраліся спевакі, музыкі і танцоры. "Вясёлка над Нараччу" — так цёпла і незвычайна называлася гэтая змена. Кожны дзень і сапраўды, нібы тая вясёлка, адлюстроўваў настроі дзяцей і разнастайнасць мерапрыемстваў. Але асаблівым ззяннем вызначыўся заключны этап рэспубліканскага фестывалю мастацкай творчасці выхаванцаў дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў.

250 удзельнікаў фестывалю не толькі набіраліся сіл і здароўя ў сасновым бары, на беразе цудоўнага возера, але і шмат чаму навучыліся; пераймалі адзін у аднаго. І вось развітальны, вялікі святочны канцэрт — канцэрт лаўрэатаў. Гледачы цёпла сустракалі юных артыстаў з Жыткавіцкай, Дубровенскай, Магілёўскай, Жабінкаўскай, Пінскай, Езярышчанскай школ-інтэрнатаў. Цяжка сказаць, хто лепш танцаваў: ці то дзеці Ястрабельскай школы-інтэрната, ці то выхаванцы школы-інтэрната N13 г.Мінска. Або хто лепей спяваў: ці дзеці Бабруйскай школы-інтэрната, ці з Лідскага дзіцячага дома.

Цудоўна тое, што напрыканцы канцэрта артысты атрыманыя за выкананне сваіх лепшых нумароў кветкі неслі настаўнікам. Літаральна патанулі ў кветкавым моры Раіса Андрэеўна Драздова і Таццяна Мікалаеўна Гацко з Бабруйска, Святлана Аляксандраўна Валуй з Езярышча Віцебскай вобласці і Ала Міхайлаўна Янушэўская з Ліды.

Добрага слова заслужылі выхавацелі Ястрабельскай школы-інтэрната (Брэсцкая вобласць) Надзея Анатольеўна Скрыбук — балетмайстар канцэрта — і Алена Анатольеўна Папека, якая спецыяльна дзеля гэтай сустрэчы напісала песню "Вясёлкавы карагод". Лепшы саліст фестывалю (з той жа школы) Павел Клімук і ўсе ўдзельнікі развіталіся з летнікам і з цудоўнай Нараччу менавіта гэтай песняй.

Над возерам у гэты час сапраўды зіхацела рознакаляровая вясёлка — як добры знак...

**Іван ТАТАРАЎ,**
**загадчык аддзела мастацкай творчасці Рэспубліканскага палаца піянераў і школьнікаў**

## ЗАМЕСТ КРОПКІ

*Сёлета мы будзем адзначаць 70-годдзе беларускага кіно. Па ўсім бачна, што свята будзе не надта вясёлым. Справы на студыі "Беларусьфільм" не ідуць так, як бы хацелася. Той струмень дзяржаўных грошай, што некалі плыў у кінематаграфічную касу, вельмі збяднеў. Інфляцыя. На ўсё не хапае сродкаў, каму сёння да кіно? Песімізм адольвае творцаў. Некаторыя ўжо і не бачаць аніякага выйсця.*

*У сувязі з юбілеем студыя "Беларусьфільм" праводзіць кінафестываль сваіх фільмаў. У наш час, калі ў кінатэатр не загоніш сілай гледача? Так, у наш час! І яшчэ раз творцы пераканаліся, што людзі помняць і любяць беларускія фільмы, яны ім і сёння патрэбныя. А гэта вельмі многа.*

*Мы ўпэўненыя, што ў нашай суверэннай дзяржаве справа нацыянальнай кінематаграфіі з цягам часу будзе вырашацца на самым высокім узроўні. А пакуль трэба жыць, выжыць. Сёння трэба самім думаць пра тое, як зарабіць грошы на новыя пастаноўкі, пракат.*

*Зараз беларускае кіно не надта вядома ў Еўропе, свеце. "Sovexportfilm" нівеліраваў усю прадукцыю, што ішла за мяжу. Ва ўсіх фільмах былога Саюза не было нідзе нацыянальнай мовы. Так што замежны глядач і не здагадваўся, што ёсць такая мова — беларуская. Мы толькі пераадольваем гэты бар'ер недасведчанасці. І зусім не сорамна і самім праявіць ініцыятыву, заявіць пра сябе, павучыцца. Для пачатку трэба добра ведаць стан замежнага кіно, тэндэнцыі, рынак.*

*Вось чаму мяне так усхваляваў артыкул Б.Холендэр у газеце "Rzeczpospolita", які я прапаную ў сваім перакладзе з польскай.*

*Рычард ЯСІНСКІ, рэжысёр*

# ШТО ДАЛЕЙ, ЕЎРОПА?



У камісіі па справах кіно, што дзейнічае пры Радзе Еўропы, складзены рапарт на тэму аб стане еўрапейскай кінематаграфіі. Яго аўтары апісалі крызіс на еўрапейскім кінарынку і магчымыя змены ў сферы размеркавання і спосабе раздзелу сродкаў на вытворчасць фільмаў. Аўдыёвізуальны рынак Еўрапейскай Супольнасці па колькасці кліентаў з'яўляецца самым буйным у свеце, а па абароце — другім. І развіваецца вельмі дынамічна. У 1981 годзе ў Еўропе дзейнічала 40 тэлевізійных каналаў, якія штогод вялі вяшчанне ў памеры 200 тысяч гадзін. У 1992 годзе больш за 100 каналаў ужо патрабавалі каля 650 тысяч гадзін розных праграм. Мяркуюць, што ў канцы стагоддзя болей за 500 еўрапейскіх тэлевізійных асяродкаў будуць ужо вяшчаць прыблізна 3,5 мільёны гадзін на год.

Еўропа не мае магчымасці выпрадукаваць такую колькасць фільмаў, забаўляльных праграм і навукова-папулярных перадач, каб задаволіць патрэбы тэлестанцыі. Такім чынам, яна (Еўропа) становіцца знакамітым рынкам для амерыканскага шоу-бізнесу. У 1984 годзе кошт аўдыёвізуальнага экспарту ЗША ў Еўропу склаў 330 мільёнаў экю, сёння — набліжаецца да 3 мільярдаў 600 мільёнаў. А ў сувязі з тым, што продажу ў адваротным кірунку амаль што няма, кошт еўрапейскага гандлёвага дэфіцыту дасягае ў гэтай галіне 3 мільярдаў 500 мільёнаў экю.

Не лепшыя справы і ў кінематаграфіі. Кажуць, што жыхары нашага кантынента сталі менш наведваць кіназалы. Гэта доказна пацвярджаюць лічбы. Сярэдні статыстычны амерыканец наведвае храм дзесятай музы 4 разы ў год, сярэдні еўрапееец — 1,7 раза. На працягу апошніх 15 гадоў колькасць гледачоў зменшылася на старым кантыненце з 1 мільярда 200 мільёнаў да 550 мільёнаў у год. Дэталёвы аналіз яскрава паказвае прычыны гэтай з'явы. Аказваецца, што за гэты час колькасць гледачоў на амерыканскіх фільмах зусім не зменшылася, вагаючыся нязменна ў памеры 450 мільёнаў чалавек. Рэзка — з лічбы болей за 600 мільёнаў да 100 мільёнаў — зменшылася колькасць гледачоў, што прыйшлі на фільмы еўрапейскіх майстроў.

## У ЕЎРОПЕ, ЯК У АМЕРЫЦЫ

У апошняе дзесяцігоддзе ўсё відавочней вымалёўваецца перавага амерыканскага кіно. У 1968 годзе еўрапейскія фільмы збіралі 60 працэнтаў выручкі ад продажу білетаў, амерыканскія фільмы — 35 працэнтаў. У канцы сямідзесятых гадоў 44 працэнты выручкі збіралі амерыканцы, а 55 працэнтаў — еўрапейцы. Сёння за акіян плыве 80 працэнтаў выручкі, а толькі няпоўныя 20 збіраюць прадзюсеры старога кантынента. Ёсць краіны, дзе кінавытворчасць развіта слаба і дзяржаўныя датацыі невялікія, таму там гэты паказчык яшчэ больш драматычны.

І толькі адно знамянальнае выключэнне — Францыя, дзе еўрапейскае кіно, а перадусім сваё, "вырывае" для сябе 55 працэнтаў кінарынку. Але ў Іспаніі ці ФРГ кіно старога кантынента збірае няпоўных 10 працэнтаў выручкі, а ў Партугаліі ці Грэцыі — менш за 5 . Калі гэтая тэндэнцыя ўтрымаецца і надалей, дык у канцы стагоддзя еўрапейскія фільмы знікнуць з нашых экранаў амаль цалкам. Тады — як сцвярджаюць спецыялісты — кінарынак у асобных краінах будзе нагадваць амерыканскі, дзе 95 працэнтаў складаюць карціны "made in USA", 2 працэнты — англійскія фільмы і толькі 1 працэнт даводзіцца на еўрапейскую прадукцыю.

Еўрапейскія кінатэатры ўжо зараз з вялікай неахвотай паказваюць фільмы сваіх рэжысёраў. Даўно мінулі тыя часы, калі творы Феліні, Вісконці, Бергмана гучна выходзілі на ўсе еўрапейскія экраны. Сёння паняцце "адзіны еўрапейскі рынак" існуе толькі ў адносінах да амерыканскага кіно. Творы вялікіх галівудскіх студый пранікаюць на экраны ўсіх дзяржаў старога кантынета. Еўрапейскія стужкі вельмі рэдка перасякаюць мяжу сваіх краін.

Кшыштаф Занусі, які нядаўна гасціў у Мінску і паказаў у нас сем сваіх цікавых фільмаў, лічыць: "Ніякія змены ў галіне арганізацыі недастатковыя, каб удыхнуць у еўрапейскае мастацтва новы дух. Еўропе патрэбна новая вера, новая утопія, новая мара. Еўропа павінна перажыць аднаўленне культурнай эліты, ёй патрэбны новы дух".

Пракатчыкі з-над Рэйна, Сены ці Дуная трапілі ў вельмі цяжкую сітуацыю. Экспансія амерыканскага кіно набывае небывалыя памеры. Вялікія галівудскія студыі выпускаюць гіганцкія хіты вельмі планава, дамаўляючыся паміж сабою аб тэрмінах прэм'ер. Потым яны высылаюць у Еўропу сотні, а то і тысячы копій фільма. Усё гэта падрыхтоўваецца шыкоўнымі рэкламнымі кампаніямі, на якія выдаткоўваюць часам такія сумы, якія можна параўнаць з коштам саміх фільмаў. Такога люксусу не можа сабе дазволіць ніводны еўрапейскі прадзюсер. У выніку, у самы лепшы час усе самыя буйныя кінатэатры дэманструюць амаль выключна амерыканскія супербаевікі, а для еўрапейцаў застаюцца малыя залі на перыферыях гарадоў. Такім чынам, сем магутных дыстрыб'ютэраў з-за акіяна (Disney/Buena Vista, Paramount, Universal, Columbia/Tristar, Warner, Fox i MGM) без цяжкасцяў перамагаюць 1049 дробных пракатчыкаў, якія дзейнічаюць у 12 краінах Еўрапейскай Супольнасці.

## АМЕРЫКАНЦЫ ІНВЕСТУЮЦЬ У ЕЎРОПЕ

Такім чынам, большасць фільмаў, зробленых у Еўропе, аказваецца дэфіцытнымі. Напрыклад, у Францыі ў спісе касавых шлягераў у 1975 годзе было 9 французскіх стужак і адна амерыканская. У 1992 годзе ў першай дзесятцы было ўжо сем амерыканскіх карцін, адна англійская і дзве французскія.

А трэба памятаць, што французская кінаіндустрыя з'яўляецца выключэннем — у іншых краінах справы ідуць значна горш. Гегемонія амерыканцаў на еўрапейскім экране базуецца не толькі на эфекце відовішча іх фільмаў і рэкламы. Галівудскія магнаты вельмі ахвотна інвестуюць у еўрапейскія кінатэатры. Яны ведаюць, што сучасны глядач не пойдзе ў занядбаныя храмы дзесятай музы. У Амерыцы закон забараняе пракатчыкам скупляць кінатэатры. У Еўропе — не. Салідныя пракатчыкі маюць на старым кантыненце ўласныя сеткі кінатэатраў, рамантуюць занядбаныя, будуюць сучасныя multiplexy. Безумоўна, не дзеля таго, каб пасля паказваць у іх творы еўрапейскіх рэжысёраў. Такім чынам, кола замкнулася.

## ЕЎРАПЕЙЦЫ ІНВЕСТУЮЦЬ У АМЕРЫЦЫ

Небагатыя (слабыя) пракатчыкі старога кантынента не спяшаюцца ўкладваць грошы ў айчынную кінавытворчасць. Напрыклад, у Францыі ў 1980 годзе яны фінансавалі 30 працэнтаў кінапрадукцыі, сёння ж яны ўкладваюць сродкі толькі ў асобныя задумы, узбагачаючы бюджэт кінематографа толькі на 4 працэнты. Такім чынам, яны не спрыяюць папулярнасці сваіх фільмаў, што значна памяншае іх экспартную вартасць. Былі гады, калі еўрапейскае кіно займала 8 працэнтаў амерыканскага рынку, сёння ж — меней за 3 працэнты. Няякасны пракат фільма міжвольна садзейнічае адміранню еўрапейскага star-system. Няма ўжо зараз на старым кантыненце кіназорак, што вабілі б у залы натоўпы, як калісьці Б.Бардо, А.Ман'яні, С.Ларэн, Р.Шнайдэр, К.Дэнёв, М.Мастраяні ці Ж.Маро. Адзін Ж.Дэпардзье вясну не зробіць.

Амерыка заўсёды палявала на еўрапейскія таленты. Яе вялікія зоркі, такія, як Г.Гарба ці М.Дзітрых былі імпарціраваныя з Еўропы. Сёння таксама не ўсе памятаюць, што адсюль паходзяць К.Конеры. Дж. Іронс ці Л.Несон. Еўрапейцам даводзіцца ўсё больш зважаць на Амерыку і лічыцца з ёй і яе рынкам. Гэта не выпадкова, што "Парок" Л.Маля, як і "Каханак" Ж.Анудэ зробленыя ў англійскім, а не французскім моўным варыянце. Амерыканцы ахвотна купляюць у Еўропе сцэнарыі кінабаевікоў. Апошнім часам нарадзілася зусім новая з'ява, якая пашыраецца. Еўрапейскія інвестары, збянтэжаныя няўдачамі айчынных кінематаграфій, шукаючы прыбытку, становяцца прадзюсерамі галівудскіх пастановак, фінансуючы, безумоўна, толькі частку вытворчасці. Credit Lyonnais, Ciby 2000, Studio Canal Plus, Polygram, Neue Constantin, Penta, ці, нарэшце, Berliner Bank, які штогод укладвае ў амерыканскую кінапрамысловасць 100 мільёнаў долараў.

Карацей кажучы, можна зрабіць выснову: амерыканскія інвестыцыі ў пракатную сетку Еўропы маюць на мэце палепшыць уласныя прыбыткі, у той час як еўрапейскія інвестыцыі ў Амерыцы маюць мэтай выкруціцца з айчыннага крызісу.

## ЯК РАТАВАЦЦА

Становішча еўрапейскага кіно пагоршыла яшчэ экспансія відэапрамысловасці і развіццё сеткі тэлестудый. Усё быццам заліла амерыканская прадукцыя, перад якой слабая, вельмі раз'яднаная еўрапейская прамысловасць не ў стане абараніцца.

Праўда, ужо некалькі гадоў як пачалі ствараццца еўрапейскія арганізацыі і праграмы, што ставяць сабе мэту падтрымаць кіно старога кантынента (Media, Eurimage, Eureka, EFDO), аднак крызіс усё паглыбляецца.

Пра спецыфіку еўрапейскага крызісу (кіно) пішуць аўтары рапарта, складзенага для Рады Еўропы, — Antonio-Pedro Vasconcelos, Michele Cotta, Peter Fleischmann, Enrique Balmaseda, David Puttman i Gaetano Stucchi. Яны мяркуюць, што каб справіцца з гэтым крызісам, трэба, па-першае, змяніць пракатную сетку і зрабіць яе па ўзоры амерыканскай — адзіную, моцную, такую, у якой найлепшыя еўрапейскія фільмы маглі б адначасова з'яўляцца на некалькіх сотнях экранаў у розных еўрапейскіх краінах. Яны таксама лічаць, што трэба вельмі разважна распараджацца ўсялякімі датацыямі і фондамі, што прызначаныя фондам інвестараў на кінавытворчасць. Яны кідаюць заклік: "Больш эфектыўны рынак для нашай прадукцыі і лепшыя фільмы для нашага рынку!".

Гэты рапарт, безумоўна, з'яўляецца важкім голасам людзей, заклапочаных сітуацыяй кінамастацтва на кантыненце. Але ці не з'яўляецца іхняе рашэнне занадта простым? Член Камісіі па правах кіно пры Радзе Еўропы Кшыштаф Занусі сцвярджае: "Рапарт у многіх месцах прапануе неабходнасць еўрапейскай кінематаграфіі стаць падобнай да амерыканскай. Перш за ўсё, у галіне пракату. Але нічога не гаворыцца пра цэлую культурную перспектыву. Ніякія змены ў галіне арганізацыі недастатковыя, каб удыхнуць у еўрапейскае мастацтва новы дух. Еўропе нестае новай веры, новай утопіі, новай мары. Еўропа павінна перажыць аднаўленне культурнай эліты, ёй патрэбны новы дух. Пра гэта ў рапарце не ўзгадваецца, а менавіта гэта здаецца мне асабліва важным для будучыні еўрапейскага кіно".

**Барбара ХОЛЕНДЭР**
**"Rzeczpospolita", Польшча**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП,
Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ,
А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ,
В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ,
В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра
газеты "Культура"

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі
аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца
і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць
пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць
за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

